# Ніва

ШТОТЫДНЁВІК

ГОД I № 30 БЕЛАСТОК, 23 ВЕРАСНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

TYGODNIK
Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Polsce


ПЯТРО ГЛЕБКА

## АДЗІНАЯ АЙЧЫНА

Яна ідзе халою дбайнай,
Напружана і чынна,
Спрацованых і занядбаных
Адзіная айчына.

І на прасторах земчай кулі
Грымяць мажныя крокі:
Над глыбінёю нашых вуліц
Будынкі высяць кроквы;

Над шырынёй палёў бязмежных
Шумяць гаі пшаніцы;
Над даўжынёй совецкіх межаў
Не дрэмле пагранічнік;

Над вышынёй узлётаў нашых
Заводы ўзносяць плечы;
Аркестры гучна граюць маршы
Над лёсам чалавечым.

І думка-песня аб Комуне —
Наш смутак і вясёласць —
Ідзе ва ўсіх васьмі кірунках
Па гарадах і сёлах.

Яе — праз горы, акіяны,
Пяскі, лясы і нетры —
Да паднявольных, зрабаваных
Нясуць чатыры ветры.

І людзі ведаюць, як дбайна,
Напружана і чынна
Будуем мы для занядбаных
Адзіную айчыну.



*На Прыпяці.*

СТАНІСЛАЎ МЭНДЗЭЛЬСКІ

## Як я палюбіў Беларусь

Малая беларуская мясціна загублена ў лясах Налібоцкай пушчы. Больш падобная да вёскі чым да мястэчка. Хаты на прадмесці пакрытыя саломай, у цэнтры — гонтаю. Нават царква — драўляная. Па-над гэтай шэрасцю парослых імхом, тлеючых дахаў, узвышаўся пабудаваны на ўзгорку мануменгальны рымска-каталіцкі касцёл яснеючы белымі калонамі быццам Элінскі Пантэон. Непадалёк касцёла — як-бы ў падтрыманне яго вялікасці — размясціліся некалькі грузных, нібы скрыні, мураваных будынкаў — Корпуса пагранаховы. У ценю касцёла прытаіўся рэнесансавы палац: уласнасць графскай сям'і Тышкевічаў — сядзіба старасты.

Калі хтось глядзеў на гэтае мястэчка здалёк, з нейкага ўзгорку, меў перад сабою даволі прыкры краявід: здавалася, што рыхлыя хаціны беларусаў не ўтрымаюць гэтага цяжару выраслай на іх хрыбце мілітарна-ідэйнай крэпасці, і што пэўнага дня мураваныя сцены касцёла, казармаў і старастаўскага палаца праваляцца пад зямлю, праглынутыя морам абкружаючай галечы.

У 1938 годзе ў гэтае мястэчка кінуў мяне лёс. Тады я быў яшчэ 11-гадовым хлапчуком. А што гэта не быў звычайны «сляпы лёс», а такі, у якім можна дагледзецца пэўных правільнасцей — варта аб іх сказаць некалькі слоў.

Папярэдне мой бацька працаваў у Варшаве. Быў пасыльным. Некаторыя людзі звыклі гэтую прафесію спалучаць з пэўнымі адносінамі да жыцця — з лёкайствам. Не разумеюць што не абавязкова быць пасыльным каб рабіць як лёкай.

Аднак перад вайною пасада пасыльнога вымагала лёкайскага характару. А мой бацька не ўмеў або не мог прыстасавацца да гэтага. І таму ў адзін летні дзень, на досвітку сядалі мы ўсе ў цягнік які ад'язджаў з вакзала Варшава — Віленская на ўсход.

Аднойчы здарылася так. Бацька не паспяшаўся аддаць чэсць для якогасьці высока пастаўленага начальніка, які будучы ў паганым настроі палічыў гэта за абразу сваёй вялікасці. Незадоўга бацька быў прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці перад судом. Прысуд: зніжэнне пенсіі да апошняга разраду і дысцыплінарнае перавядзенне на ўсходнія «крэсы».

Калі цягнік рушыў, бацька сказаў:

— Ну маці. Дачакаліся... едзем на ссылку...

Маці кіўнула галавою і праз хвіліну задумаўшыся, дадала:

— Быццам-бы там на «крэсах» няма людзей на пасады пасыльных.

Меланхалічны голас маці як аднастайны грукат колаў цягніка, абудзіў у мяне нейкае глыбокае сумненне што да сэнсу гэтага падарожжа. Мала я яшчэ тады разумеў усё гэта, што адбывалася навокал мяне. Нягледзячы на ўсёй трагізм становішча, аб якім дадумваўся з размоў бацькоў, патайком цешыўся, што бацьку пераводзяць недзе далёка, у невядомую, экзатычную краіну, парослую дзікай пушчай, поўную дзікіх звяроў, і цікавых невядомых людзей. І вось словы маці, быццам пацвярджалі ўсё гэта.

На свой дзіцячы розум я ніяк не мог зразумець. Праз цэлую дарогу ўсё думаў: чаму там, дзе мы едзем, няма адпаведных на пасыльных людзей...

Уяўляў я сабе наколькі яны нешчаслівыя па гэтай прычыне. Бо я-ж таксама, толькі марыў аб тым, каб калі дарасту, быць пасыльным і насіць, так як і мой бацька, чорны мундзір з зялёнымі штрыфелямі.

Шчыра ім спачуваў але што-ж з гэтага калі краіна ў якой людзі не маглі быць нават пасыльнымі страціла для мяне чароўнасць — перастала мне імпанаваць.

На месцы мы былі ўжо пад вечар. Кватэру атрымалі далёка па-за горадам. Быў гэта пакой з кухняй у звычайнай сялянскай хаціне арэндаванай у гаспадара, які прыціснуты бядою перанёсся з вялікай сям'ёю ў адзін пакой.

Рэчай мы прывезлі нямнога — так што пакуль пацямнела, — кватэра была ўпарадкавана.

Калі мы пакончылі з гэтым, пайшоў я з бацькам нанесці ўступны візіт гаспадару. Быў гэта вялікасны стары беларус з сівымі валасамі і белай, спічастай барадою. Хадзіў у доўгай, выпушчанай на штаны, кашулі, падпярэзаны каляровым, вышытым паяском. Калі я яго ўбачыў, перад маімі вачыма паўсталі постаці рускіх баяраў, вядомыя мне з ілюструючых школьныя падручнікі малюнкаў.

Гаспадар аказаўся вельмі гасцінным. На стале з'явілася бутэлька гарэлкі і парэзана на пластыркі жоўтае сала. Калі мы крыху падпілі, — пасыпаліся ўспаміны, апавяданні і анекдоты. Мала ўжо аб гэтым памятаю. Прыпамінаю толькі, што, калі я каля поўначы засынаў недзе ў куце, — абудзіў мяне ўзбуджаны голас гаспадара, які гаварыў да бацькі ламанай польскай мовай:

— Панок! Я ведаю што пан добры чалавек! Так і я да пана ніц не мею! І іннэ польске паны тыж бываюць добрэ людзе. Але от, поцо ту вы пжыежджаце? Так у нас самых людзей досыць — дзеваць іх няма дзе, а вы тут вшысцке ўжэнды пазаймавалі. Я разумею — польска тут тэраз уладза, польскі значыць мусіць быць староста — вось што! Але панскі чын — возны.

*Працяг на ст. 2.*

